


# Ніва

ТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 12 (1151) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 19 САКАВІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.



*Фальклорны рэпертуар Ніны Такаюк падкупіў журы сваёй самабытнасцю. Яно прызнала спявачцы галоўную ўзнагароду „Нівы“.*



*Тамара Ільяшук з Бельскага беларускага ліцэя падзяліла з Аляксандрам Раманюком з Дубяжына першае месца, прызначанае для салістаў у катэгорыі сучаснай песні.*

БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78

## „Мікіта, Мікіта, жыць на свеце любата!“

Сапраўдным святам беларускай песні стаў дзень 26 лютага гэтага года. Ад самай раніцы ў кінатэатр Дома прафсаюзаў спяшаліся людзі. Ішлі яны сюды цэлымі сем'ямі, з малымі дзецьмі, што, як кажуць, „ад гаршка два вяршка“, ішлі і самотныя старушкі, ішлі дзеячы ды сімпатыкі Беларускага таварыства. Ішла грэміяльна моладзь!!! Ішлі ўсе тыя, каму дарагая і блізкая беларуская песня. Іншыя ж проста хацелі паслухаць добрыя спевы.

Дваццаць адна пазіцыя фінальнага агляду „Беларуская песня-78“ — гэта было некалькі гадзін незабыўнага спеву. Рэпертуар паловы ўдзельнікаў складаўся з фальклорных песень. Спявачкі павыцягвалі са сваіх закамаркаў, быццам тыя саяны з пасажных куфраў, старадаўныя рэгіянальныя песні і на справе даказалі, што унікальнае мастацтва можа і павінна быць жывучым. У гэтым пераканалі нас Ніна Такаюк з Мікуліч, Софія Цацэрка з Бабpоўнік, калектывы з Меляшкоў, Арэшкава, Вітава, Тапаркоў і іншыя.

У песенных конкурсах заўсёды ўжо так бывае, што на кожным з іх асабліва вылучаецца нейкі адзін калектыў, адна мясцовасць. Памятаю, быў Гарадок, быў калісь Дубяжын, Арэшкава. А ў гэтым годзе сэрцы слухачоў бесканкурэнцыйна заваяваў Бельскі беларускі ліцэй. Нескажоныя галаскі дзяўчатак з „Дзявочых нотак“ падкупілі слухачоў сваёй свежасцю і лірызмам, а іх мастацкі кіраўнік Сяргей Лукашук вельмі трапна падабраў для іх рэпертуар і апрацоўку. **У катэгорыі сучаснай песні** не было ім роўных: перамог і калектыў, і дуэт Тамара Ільяшук — Людміла Грайко, першае месца сярод салістаў было прызнана побач з Аляксандрам Раманюком з Дубяжына — Тамары Ільяшук, вучаніцы белліцэя; другое ж месца заняла яе сяброўка — салістка Гражына Калята.

У катэгорыі сучаснай песні на другім месцы апынуўся калектыў „Каласкі“ з Беластока, які працуе пад кіраўніцтвам Людмілы Панько, а на трэцім „Дубочкі“ з Дубяжына. Другое месца ў дуэтах падзялілі дуэты Галена Кот — Ірына Паўлючук з Гарадка і вядомая пара з Беластока Люба і Аля Гаўрылюк.

**У катэгорыі фальклорнай песні** галоўную ўзнагароду — узнагароду „Нівы“ заваявала Ніна Такаюк з Мікуліч. Яна праспявала дзве доўгія, старадаўныя, сумныя балады з надбужанскага фальклору: „Хотіла маты сына ожэныті“ і „Пуозно, дівка, цвіты сіеш“, якія асабліва спадабаліся журы сваёй самабытнасцю. Другое месца заняла вядомая ўжо па сваіх ранейшых выступленнях спявачка з Бабpоўнікаў — Софія Цацэрка. Сярод дуэтаў, выступаючых з фальклорным рэпертуарам, другое месца падзялілі малады жаночы дуэт Ніны і Яўгеніі Вішанка з Мікуліч і не першы раз выступаючы мужчынскі дуэт з Орлі Мікалай Лопух — Яўген Бала.

Найбольшы клопат журы мела пры ацэнцы **фальклорных калектываў.** Добрых калектываў аказалася больш, як прызавых месц. Пасля доўгай нарады першае месца было прызнана калектыву з Меляшкоў, другое — Гарадку, трэцяе падзялілі Арэшкава і Вітава. Дадатковую ўзнагароду атрымалі таксама і добрае трыо з Тапаркоў, і калектывы з Орлі і Чэхаў Арлянскіх.

Доўгімі, незмаўкаючымі апладысментамі праводзілі ўдзельнікаў фінальнага агляду людзі, што прыйшлі нядзельным днём на сустрэчу з беларускай песняй у Беластоку. Сэрцы іх напаўняліся радасцю ад гэтай сустрэчы. І праўду спявалі беластоцкія „Каласкі“: „Мікіта, Мікіта, жыць на свеце любата!“

**Ада Чэчуга**
Фота М. Шаховіча



*Глядзельная зала перапоўнена.*

## ПОСТУП СУЧАСНАСЦІ

С а Станіславам Гаеўскім, I сакратаром гміннага камітэта партыі ў Міхалове, я пазнаёміўся на XVI Ваяводскай справаздачна-выбарнай канферэнцыі ПАРП у Беластоку.

— Удзел у розных канферэнцыях і нарадах, — гаварыў мне Станіслаў Гаеўскі, — гэта для нас, радавых партыйных дзеячоў, справа, так сказаць, звычайная, штодзённая. Але ў час гэтай канферэнцыі адчуваецца штосьці вялікае, сказаў бы, гістарычнае. Перш за ўсё таму, што ва ўсіх выступленнях, ва ўсіх праграмных дакументах знайсці можна новы па якасці, але зусім рэальны, вышэйшы этап нашых супольных намаганняў, каб лепш працаваць, каб лепш нам жылося.

— Як гэта выглядае, — запытаў я яго, — у перспектыве вашай, Міхалоўскай гміны?

— Вось прыклады: калі параўнаць два апошнія гады: 1976 і 1977, то на кожных 100 гектарах зямельных угоддзяў паявілася ў нашай гміне на звыш 3 штукі кароў б о л ь ш, на 4 штукі свіней і амаль на тры штукі больш авечак. Адначасова ў мінулым годзе 35 хлебаробаў з нашай гміны давялі свае гаспадаркі да такога ўзроўню, што можна было выдаць ім карты і прывілеі спецыялістычных гаспадарак. Спадзяемся, што ўжо неўзабаве, бо вясною гэтага года, далучыцца да іх яшчэ 25 наступных гаспадароў. Дзейнічаюць сялянскія суполкі. Гэта перш за ўсё дзякуючы ім удалося нам у гміне поўнасцю выканаць план па скупцы збожжа і мяса

— Як вы ацэньваеце дасягненні сялян Міхалоўскай гміны на фоне іншых гмін Беластоцкага ваяводства?

— Гэта залежыць, з кім нам раўняцца. Ніхто, вядома, не хоча быць найгоршым, апошнім. Але нам, таксама, дарэчы, як і іншым гмінам у цэлай усходняй прыгранічнай паласе Беласточчыны, давodзіцца пачынаць свой поступ у сучаснасць са шмат ніжэйшага ўзроўню, чымсьці, скажам, у Манецкай, або Кнышынскай гмінах.

— Чаму? У чым гэта праяўляецца?

— Ад вякоў людзі жылі ў нас бедна. Зямля ніколі не давала нашым сялянам аніякай гарантыі, што могуць яны вырвацца з бяды і пастаяннай нястачы. Таму без жалю пакідалі яе, калі толькі была дзеля гэтага нагода, калі горад адкрыў болей заманлівыя жыццёвыя перспектывы. Адносіцца гэта асабліва да моладзі, да пасляваеннага пакалення. У выніку гэтага пастаянна накапляўся ў нашай гміне дзяржаўны фонд зямлі, якая найчасцей не была добра выкарыстана. Цяпер гэтую зямлю перадалі мы нядаўна абсталяванаму ПГРу. 5 тысяч га. I гэта толькі пачатак, бо ў Міхалоўскай гміне ўжо зараз налічваецца амаль 1000 гаспадароў, якім пара на пенсію, а яны не маюць каму аддаць сваю зямлю. 550 іншых гаспадароў, крыху маладшых, таксама не мае наследнікаў. Такім чынам ПГРаўская маёмасць павялічыцца неўзабаве да звыш 10 тысяч гектараў.

— Значыць, зямля ўрэшце знойдзе сапраўднага гаспадара.

— Так, гэта факт. Але, на жаль, наш ПГР пакуль што не мае адпаведных умоў для развіцця ж ы в ё л а г а д о ў л і, **а гэта ж у пастановах канферэнцыі асноўнае заданне для вясковай гаспадаркі.** Трэба будаваць кароўнікі, свінарнікі, аўчарні. Аднак гэта ўжо справа не гміннай, але вышэйшай улады...

— Ці толькі гэты пастулат накіроўваеце вы ў адрас ваяводскіх улад?

— Не, не толькі. Неадкладнай дапамогі патрабуюць таксама тыя сяляне, якія хочуць астацца ў вёсцы і гаспадарыць па-сучаснаму. Ці ўяўляеце такую гаспадарку без сельскагаспадарчых машын? А ў нас адзін трактар прыпадае на 267 гектараў сялянскай аднаасобнай зямлі. Толькі 59 гаспадароў мае ўласныя трактары.

— У сваім выступленні на канферэнцыі вы прапанавалі, каб міхалоўскія прафесіянальныя школы ператварыць у школы сельскагаспадарчага характару.

**(Працяг на стар. 4)**



Макет новага аэрапорта беларускай сталіцы. *Фота У. Казлова.*

## ШТО НОВАГА?

### ПАЛАВІНА ФРАНЦУЗСКАЙ АРМІІ БЕСПРАЦОЎНЫХ

Беспрацоўе стала сапраўдным няшчасцем для 780 тысяч маладых французаў і француженак, якія складаюць амаль палавіну арміі беспрацоўных краіны. Прычым, паводле даных часопіса „Авангард", 500 тысяч з іх не атрымліваюць ніякай дапамогі. Паводле ацэнкі прафсаюзнага аб'яднання УКП, за апошнія шэсць гадоў колькасць маладых беспрацоўных у Францыі павялічылася ў 10 разоў.

Штогод, паводле даных друку, да 350 тысяч французскіх юнакоў і дзяўчат вымушаны кідаць вучобу, так і не атрымаўшы прафесіянальнай адукацыі. Асноўная прычына гэтага — цяжкае матэрыяльнае становішча навучэнцаў. Разам з тым, паводле даных часопіса, за апошнія 5 гадоў колькасць студэнтаў, што атрымліваюць стыпендыю, якой ледзь хапае на набыццё навучальных дапаможнікаў, плату за інтэрнат і лабараторныя работы, знізілася з 18 да 12 працэнтаў. Гэта прыводзіць да таго, што 30 працэнтаў студэнтаў пакідаюць ВНУ ўжо на першым курсе.

Паводле даных нацыянальнага інстытута статыстыкі і эканамічных даследаванняў, дзеці рабочых у вышэйшых навучальных установах складаюць толькі 11,6 працэнта, а ў некаторых з іх — 0,1 працэнта, дзеці сялян — 6 працэнтаў. У той жа час 20 працэнтаў студэнцкай моладзі — выхадцы з багатых сем'яў, якія складаюць толькі 2 працэнты насельніцтва краіны.

### АД ЧАГО ЎЦЯКАЕ „АББА"

У Швецыі вельмі любяць музыкальнае мастацтва. Таму там такой шырокай папулярнасцю карыстаецца вядомы квартэт „Абба". Але ў апошнія гады слухачы засмуціліся: пайшла чутка, што гэты квартэт быццам збіраецца назаўсёды пакінуць родную краіну і выехаць немаведама куды за яе межы.

Расчараваныя слухачы ламалі галаву: што з'яўляецца прычынай эміграцыі членаў гэтага невялічкага мастацкага калектыву? Няўжо ім не па душы шумныя апладысменты расчуленых і ўдзячных землякоў, няўжо ім абрыдла слава ў сваёй роднай краіне? Можа, іх не задавальняюць даволі вялікія грашовыя зборы, і яны таксама ж, як і многія іншыя, прысвяціўшыя сябе мастацтву, захацелі стаць мільянерамі? Аказваецца, справа ў тым, што дзяржава сама захацела нажыць на гэтым квартэце мільёны.

— Мы вельмі любім сваю радзіму, — гавораць удзельнікі квартэта. — Ды падаткі такія, што паглынаюць амаль увесь наш заробак.

І сапраўды, падаткі занадта ж дапяклі гэтым музыкам. Напрыклад, ужо ў 1975 годзе ім давялося заплаціць каля 300 тысяч долараў падаткаў, што склала 85 працэнтаў іх гадавога заробку. У наступных 76 і 77 гадах яны выраслі амаль да мільённага ўзроўню.

І „Абба" — гэта далёка не адзіны творчы калектыў, які „добраахвотна" пакінуў радзіму, бегучы ад падаткаў.

### КОЛЬКІ „КАШТУЕ" ЯПОНІЯ?

Растуць цэны на зямлю ў краіне ўзыходзячага сонца. У параўнанні са студзенем мінулага года яны ўзняліся ў сярэднім на 2,6 працэнта. Асабліва падаражалі зямельныя ўчасткі ў густанаселеных раёнах краіны. У Токіо, напрыклад, 1 цуба (3,3м²) каштуе 121 тысячу іен.

...На сённяшні дзень японскі архіпелаг „ацэньваецца" ў 430 трылёнаў іен.



## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ВЫСТАЎКА ДАСЯГНЕННЯЎ

Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі Беларускай ССР — пастаянна дзеючая. Яна адкрыта 27 снежня 1968 года.

Галоўнае заданне выстаўкі — прапагандаваць дасягненні прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і культуры. Выстаўка актыўна садзейнічае распаўсюджванню і ўкараненню ў практыку перадавога вопыту і карыстаецца вялікай папулярнасцю ў працоўных рэспублікі і замежных гасцей.

Тут ёсць чым здзівіцца. Напрыклад, аграмадная апона амаль што ў два чалавечыя росты, а насупраць — малюсенькі радыёпрыёмнік, убудаваны ў вечнае пяро... Але мой шасцігадовы сын найдоўга захапляецца ўсёй гэтай незвычайнасцю. Што там радыёпрыёмнікі, самалёты, лічачыя і чытаючыя машыны, калі ёсць і больш незвычайныя рэчы! „Што гэта?" — цягне ён мяне да фотаздымка на сцяне. А там, на старой, шасцідзесяцігадовай даўнасці фатаграфіі, — селянін з сахою. Саха, лапці — вось што аказваецца, самае небывалае цуда.

Вельмі цяжка здзівіць цяперашняга чалавека, нават не надта вопытнага. Каб у поўнай меры ацаніць нашы сённяшнія дасягненні, трэба „вярнуцца" назад, хоць бы на некалькі дзесяцігоддзяў.

Ці ж было такое якіх-небудзь сорак год таму назад: на руцэ — электронны гадзіннік, на заводзе — станок з праграмным кіраваннем?! Сёння ўсё гэта ёсць і ўсебакова паказана тут, на галоўнай выстаўцы рэспублікі. На адной з экспазіцый прадстаўлены прылады, збудаваныя вучнямі Мінскага вучылішча электронікі. Ужо адно тое, што паўсталі такія вучылішчы і што моладзі стала даступна і падуладна такая складаная галіна ведаў, як электроніка — гэта адзін з доказаў росту і мужнення краіны і рэспублікі.

У памяці трыццацігадовага чалавека яшчэ захаваліся механічныя патэфоны, на якіх праігрываліся пласцінкі з такой, напрыклад, песняй:

„На деревне расставание поют:
Провожают гармониста в институт..."

Гэта было першае дзесяцігоддзе пасля вайны з гітлераўскім фашызмам, якая прынесла савецкаму народу нечуваныя страты і знішчэнні. Тады гэты прымітыўны патэфон, вядома ж, быў вялікай радасцю і нават роскашшу ў хаце. І гэта немудрагелістая песенька была тады вельмі актуальная: паступленне ў інстытут было падзеяй, усеагульным святам, бо абазначала вяртанне да мірнага жыцця. Здабыццё вышэйшай адукацыі, шлях да якой для многіх быў спынены вайной, цяпер стала звычайным фактам, з'явай, уласцівай нашаму жыццю — і гарадскому, і вясковаму. У кожным калгасе і саўгасе рэспублікі знаходзіцца не мала дыпламаваных спецыялістаў, сярод якіх нярэдка можна сустрэць і доктара навук. 1600 спецыялістаў і кіраўнікоў гаспадарак штогод павышаюць кваліфікацыю ў сельскагаспадарчых вышэйшых школах.

Выстаўка падрабязна расказвае аб усіх гэтых дасягненнях нашай рэспублікі, якая была адсталай аграрнай ускраінай царскай Расіі. Быццам бы на казачным абрусе, раскінуліся тут плады зямлі беларускай. Поўныя кашы збожжа, яблыкаў, бульбы, якой Беларусь дае 17 працэнтаў у аб'ёме краіны і 5 працэнтаў у сусветным маштабе. Пышныя снапы ільну, па вырошчванню якога рэспубліка займае трэцяе месца ў краіне і вырабы з якога — вышытыя абрусы, сукенкі, касцюмы — славяцца ва ўсім свеце.

А па-суседску абсталяваліся кармілец палёў — калійныя (патасовыя) угнаенні, запасы якіх у рэспубліцы значныя. Камбінат „Беларуськалій" дае каля палавіны таго, што здабываецца ў краіне.

Робіць уражанне сельскагаспадарчая тэхніка. Навейшая мадэль трактара „Беларусь", напрыклад, які працуе цяпер на палях 70 краін. Або тыповы праект сховішча на бульбу, якое атрымала прэмію Савета Міністраў СССР...

Машынабудаванне, праектаванне і будаўніцтва, хімічная прамысловасць і новая яе галіна — нафтахімія — усё гэта таксама шырока паказана на выстаўцы. У шкляным посудзе — гранулы і вадкія нафтапрадукты, валокны і фолія... Макеты будучых гмахаў і станкі... А магутны „БелАЗ" (вядомае ва ўсім свеце дзіця Беларускага вытворчага аўтамабільнага аб'яднання), які „перарос" памеры выставачнага павільёна і абсталяваўся на панадворку, стаўшы як быццам бы рэкламай, шыльдай, эмблемай выстаўкі.

Выстаўка — доказ не толькі магутнага развіцця вытворчых сіл, але і высокага жыццёвага ўзроўню і культуры працоўных у нашым грамадстве, грамадстве развітога сацыялізму.

У доме бадай кожнага майго земляка вы ўбачыце і сытны стол, і фарфор, і крышталь на гэтым стале, прыгожую мэблю і дываны, модную вопратку, а часценька і... не, не патэфон, а піяніна і навейшай маркі каляровы тэлевізар. Усе гэтыя прадметы хатняга ўжытку выпускаюцца ў нас для ўсіх і даступны ўсім. І зразумела, у кожны дом даўно і назаўсёды ўвайшлі кнігі. Калісьці амаль поўнасцю непісьменны народ стаў цяпер адным з самых чытаючых, пішучых і выдаючых кнігі.

У Беларусі, расказвае адна з экспазіцый, працуе 130 паліграфічных прадпрыемстваў. Найбольшае з іх — Мінскі паліграфічны камбінат імя народнага паэта рэспублікі Якуба Коласа — на працягу сутак выпускае 220 тысяч экземпляраў кніг і брашур. Заказы на беларускую кнігу паступаюць з 110 краін свету.

Багатая і красачная наша рэчаіснасць. Гэта ж, бадай, самы вялікі цуд, які адкрываеш для сябе, калі знаёмішся з выстаўкай.

**С. Заяц**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**Жывапісец зямлі Беластоцкай • Дарога Дарожак • Жыве песня ў нашым народзе • Чудак • Жанчыны — наша сіла • Дзядзька Максім чужыя грахі варочае • Весткі з Пасынак, Бельска, Міхалова, Новай Волі, Гайнаўкі, Нараўкі, Дубіч Царкоўных • Калі сніцца цудоўнае падарожжа • На святочны стол • Кастусь філасофствуе • Сіноптык у варажбітці • Ціпун • Песня „Wspomnienia o Adelajdzie".**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### УДАСКАНАЛЬВАЕЦЦА СЛУЖБА БЫТУ

З году ў год пашыраецца і ўдасканальваецца на Гродзеншчыне служба быту. Многае зроблена для яе тэхнічнага аснашчэння. Прыкметна павялічыўся аб'ём, палепшылася якасць бытавых паслуг.

У вобласці ўсё больш укараняюцца прагрэсіўныя формы абслугоўвання насельніцтва. У прыватнасці, практыкуецца абмен няспраўнай бытавой тэхнікі на адрамантаваную. Створаны выязныя брыгады, якія аказваюць дапамогу прадпрыемствам службы быту на сяле. Дарэчы, у сельскай мясцовасці працуе каля 450 дамоў быту і комплексных прыёмных пунктаў.

### МаАЗ „ПАДЫМАЕ" 20 ТОН

На Магілёўскім аўтазаводзе пачаты серыйны выпуск новай маркі аўтасамазвала МаАЗ-22ОА грузападымальнасцю 20 тон.

Гэта машына мае два вядучыя масты, што дазваляе ёй працаваць у кар'ерах з сыпучым грунтам, рабіць перавозкі па любых дарогах.

### НЕЗГАРАЛЬНАЯ ТКАНІНА

Здольнасцю вытрымліваць доўгі час высокую тэмпературу і затрымліваць цвёрдыя часцінкі гарачых газаў валодае аксалонавая тканіна, створаная на Светлагорскім заводзе штучнага валакна. Яна будзе шырока выкарыстоўвацца ў хімічнай, горнарруднай і цэментнай прамысловасці.

### ПРЫБАВІЦЦА 30 САЎГАСАЎ

Асушэнне велізарнага забалочанага масіву завяршылі беларускія меліяратары ў вярхоўі ракі Ясельды. Яны выпраставалі рэчышча гэтага прытока Прыпяці, выкапалі каналы, праклалі дрэнажную сетку, старанна выраўнавалі палі. Гаспадаркі Брэсцкай вобласці атрымалі каля дваццаці тысяч гектараў зямлі.

На Палессі ствараецца 30 новых саўгасаў, якія змогуць даваць штогод 400 тысяч тон малака і мяса і дзве тысячы тон насення шматгадовых траў. Плошча меліяраваных палеткаў за апошнія два гады павялічылася ў рэспубліцы на 265 тысяч гектараў і дасягнула двух з палавінай мільёнаў гектараў.




**Piątek 17 III** — 6.55 Film fab. 17.45 Film fab. 21.15 Koncert.

**Sobota 18 III** — 12.00 Hokej. Spartak—Skrzydła Rad. 14.45 Film fab. 16.30 Nie do wiary. 18.20 Spektakl. 19.30 Koncert.

**Niedziela 19 III** — 9.00 Film fab. 12.00 Spektakl. 14.25 Panorama międzynar. 15.15 Koncert życzeń. 16.15 Film anim. 16.35 Klub film. 17.35 Film fab. 19.30 Festiwale, konkursy, koncerty... 20.35 Spartakiada (zimowa) Narodów ZSRR.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Przyjaciele Eddiego — USA 21—22. Pani minister tańczy — pol. 23—24. W mroku nocy — USA 25—26.
**Bielsk Podl.** Błękitny ptak — radz. 21—22. Każdy umiera w samotności — RFN 23—24. Cenny depozyt — fr. 25—26.
**Czyże** Anna siostra Jany — czes. Wagon sypialny — jug. 22—26.
**Dubicze Cerk.** Dziewięć miesięcy — węg. Filipek — NRD 22—26.
**Gródek** Uśmiech — USA 25—26.
**Hajnówka** Jak car Piotr Ibrahima swatał — radz. 20—21. Przepowiednia — meks. 22—23. Policja przygląda się — wł. 24—25. Kobieta — radz. 26.
**Michałowo** Konie Valdeza — USA 21—22. Stara strzelba — fr. 23—24. Pod strachem — fr. 25—26.
**Milejczyce** Dowódca łodzi podwodnej — radz. 21—22. Cień zbrodni — 23—24. Rodzinny gang — wł. 25—26.
**Narew** Zerwana nić babiego lata — radz. Konie Valdeza — wł. 22—26.
**Narewka** Alicja już tu nie mieszka — USA. Jak car Piotr Ibrahima swatał — radz. 22—26.
**Nurzec** Sacco i Vanzetti — wł. 21—22. Wniebowstąpienie — radz. 23—24. Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. 25—26.
**Orla** Opowieść o komuniście — radz. Ptaki ptakom — pol. 22—26.
**Rajsk** Dagny — pol. Gdzie woda czysta i trawa zielona — pol. 22—26.

B.Z.Graf. Zam. nr 616 7822 egz. N-4

# Алімпійцы белліцэя

Слова алімпіяда найчасцей спалучаецца з рознымі спартыўнымі спаборніцтвамі. Радзей адносім гэта да школы, да розных прадметаў. А ёсць і такія алімпіяды. Міністэрства асветы і выхавання прыдало ім высокі ранг. Усе ўдзельнікі цэнтральных элімінацый могуць паступіць без экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, згодныя з прадметам алімпіяды, або быць звольненымі з экзамена па гэтаму прадмету, калі выбралі іншы напрамак у далейшай вучобе. У сувязі з гэтым сярэднія школы да алімпіядаў адносяцца вельмі сур'ёзна. З'яўляюцца яны паказчыкам узроўню навучання.

Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім званне алімпійца прысвойвае тым, хто пасля школьных элімінацый прайшоў у ваяводскія або акруговыя. Такое званне атрымала больш трыццаці вучняў. Сярод іх ёсць лаўрэаты, якія прадстаўлялі школу і ваяводства на цэнтральных элімінацыях. Гэтых і хочам паказаць.

* ✲ *

Адной з лаўрэатак з'яўляецца вучаніца IVц Ірэна Нічыпарук, удзельніца цэнтральных элімінацый па рускай мове. Пачатковую школу закончыла ў сваёй роднай вёсцы Зубаве. Там пасеялі ў яе душы зерне любві да рускай мовы і літаратуры. Асабліва настаўніца Вольга Врублеўская, якая абудзіла ў яе вялікае зацікаўленне. Ужо ў пачатковай школе добра ведала яна творчасць С. Ясеніна, М. Шолахава, М. Горкага. Аднак поўнасцю любіць і разумець рускую і савецкую літаратуру навучыла яе настаўніца ліцэя Зінаіда Навіцкая.



— Мае дасягненні на ніве рускай мовы і літаратуры гэта вялікая заслуга настаўніцы З. Навіцкай, — гаворыць І. Нічыпарук. — Унесла яна вялікі ўклад — кнігі, паясненні правіл, аналіз літаратурных твораў.

У алімпіядзе І. Нічыпарук прымала ўдзел першы раз. І, пэўна, ужо такая нагода не надарыцца. У бягучым годзе канчае ліцэй. Але, каб так была магчымасць, зноў пачала б, ды абавязкова з гэтага прадмета. Сама так заявіла. Бельскі белліцэй мае ў гэтым напрамку традыцыю. Першы крок зрабіла Галена Шурбак, якая зараз вучыцца ў Савецкім Саюзе. Згодна са сказаным нашай вучаніцай, алімпіяда дала ёй вельмі многа. Самае галоўнае — гэта магчымасць паступіць без экзаменаў на рускую філалогію, аб чым марыла ўжо некалькі год. І другая справа — бліжэй пазнаёмілася з Савецкім Саюзам, яго жыццём і гаспадаркай. Алімпіяда патрабавала ж чытання прэсы, кніг.

— Яшчэ б толькі здаць матуру і тады ў Варшаву ва універсітэт, што было маёй вечнай марай. Маё жаданне стаць настаўніцай, — гаворыць Ірэна.

— Часта чуецца, што руская і беларуская мовы перашкаджаюць адна другой у вывучэнні іх. Так некаторыя гавораць. Праўда гэта? — пытаем.

— Магчыма тым, якія да ўсяго адносяцца абыякава. Мне не. Наадварот, сказала б, што дапамагаюць. Дашукоўваючыся розніцы і падабенства, магу глыбей пазнаць як літаратуру, так і мову. У мяне і па рускай і па беларускай пяцёркі, што гаворыць за сябе.

Ірэна Нічыпарук вельмі добрая і па другіх прадметах. **Яе здымак вісіць сярод** найлепшых вучняў школы. Застаецца толькі пажадаць здання матуры і поспехаў у далейшай вучобе.

**М. Шаховіч**

Фота аўтара

# Суд згоды

Кожны дзень, амаль без перапынку, сляпая багіня справядлівасці, суровая Тэміда, круціць свае жорны. Кожны дзень людзі шукаюць у яе сваёй „праўды“.

Толькі... з судовай залы заўжды хтосьці выходзіць незадаволены, з пачуццём злосці, з іскрынкай помсты. Калі прыгавор згодны з вашымі спадзяваннямі, незадаволены і знерваваны будзе ваш праціўнік, а калі — наадварот, вядома, злавацца будзеце вы.

У нашым грамадскім жыцці ёсць аднак адно звяно, якое ўмоўна можна назваць **судом згоды**, а фармальна — гэта **грамадскія паяднаўчыя камісіі**, якія дзейнічаюць ад імя камітэтаў Фронту адзінства народу.

Выбіраюць іх вясковыя, пасялковыя або гмінныя камітэты Фронту адзінства народу. Член грамадскай паяднаўчай камісіі атрымоўвае мандат і дае ўрачыстую прысягу:

*„Урачыста прысягаю, што я, як член грамадскай паяднаўчай камісіі, буду сумленна выконваць свае абавязкі, каб прадухіляць канфлікты, каб развіваць правільныя суадносіны між людзьмі і замацоўваць асновы грамадскага сужыцця а ў сваіх паводзінах буду я прытрымоўвацца бесстароннасці і справядлівасці“.*

Член грамадскай паяднаўчай камісіі не бярэ ніякай зарплаты. Гэта выключна грамадская дзейнасць.

Праўнай асновай для дзейнасці гэтых камісій з'яўляецца сеймавая пастанова з 1965 года аб грамадскіх судах. Вызначае яна дакладна форму і характар дзейнасці судоў згоды, бо сапраўды асноўнай іх мэтай з'яўляецца з г о д а тых, што пасварыліся, тых, што паводзілі сябе не так як трэба. Грамадская паяднаўчая камісія не вызначае ніякіх перакананняў. Яна толькі можа патрабаваць:

1) каб публічна перапрасіць пакрыўджанага;

2) абавязаць кампенсаваць шкоду;

3) аб'явіць публічны напамін або вымавар;

4) абавязаць да заплаты на нейкі грамадскі фонд не надта вялікую суму грошай.

І больш нічога. Грамадскія паяднаўчыя камісіі гэтым чынам не выручаюць ані судоў, ані пакаральных адміністрацыйных калегіяў. Яны намагаюцца давесці пасвараных да згоды, а тым, хто паводзіў сябе не зусім згодна з нормамі грамадскага сужыцця, яны стараюцца ўсведаміць яўную шкоду і неўласцівасць такіх учынкаў.

Прывяду прыклад, аб якім расказваў мне шматгадовы дзеяч судоў згоды ў Бельску **Вінцук Александровіч.**

Жыло двое суседзяў. Мелі супольны калодзеж, а на дабавак, як у суседзяў, супольны плот, з якога асталіся толькі спарахнелыя рэшткі. Сусед азіраўся на суседа і неяк ні аднаму з іх не хацелася брацца за рамонт гэтага плоту. Карысталіся гэтым каровы і свінні, ды ўся іншая двух- і чатырохножная жывёла. Аднойчы пад свята адзін з гаспадароў нарыхтаваў для сваіх свіней запас зялёных кармоў. Да яго парсюкоў зараз зайшлі ў госці кармнікі суседа, бо свінні — не людзі і ўласнасці не адрозніваюць. Успыхнула сварка. З гэтага

(Працяг на стар. 4)

**ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК**

# Алеся Барскага — каханне голае як праўда

Паэзія Алеся Барскага, што вырасла на матывах хаты, маці, дзяцінства, „айчыны першых спраў, простых і прыгожых“, становіцца глыбокім дакументам прывязанасці паэта да месца нараджэння. Не жывіцца, аднак, плачлівым сентыментам ці ўзнёслай рыторыкай, а захоўвае сваю адвечную прастату і ўмеркаваныя паэтычныя параўнанні. У вершы „Айчына“ паэт піша:

*Ля ціхай хаты, на галінах*
*Калыша птушак дуб-равеснік.*
*І гэта ёсць мая Айчына,*
*Якой спяваю свае песні.*

Гэта прызнанне — не сухая дэкларацыя, яно пацверджана паэтычнымі здабыткамі, і нават змена тэматыкі, пераход да эротыку не выключае вышэй пададзеных сцвярджэнняў, а толькі ўзбагачае іх элементамі зямлі, асяроддзя. Той своеасаблівы пантэізм з'яўляецца ў паэзіі Алеся Барскага адлюстраваннем яго духоўных непакояў, вялікага пачуцця і бясконцых пытанняў, на якія паэт імкнецца адказаць уласным „падгляданнем свету“. Жыццё прыроды ў яго зраўнана з біялагічным жыццём чалавека: „Я — цвет, адцвіўшы на галіне, я — яблык, выспелы ўвосень“. На канве гэтага пейзажу паэт стварае ўласны, іншы свет сэнсаў, як быццам бы толькі ў цалкавітым яднанні можна было знайсці сэнс і праўду. Паўтараю, гэта паэзія не баючаяся нямодных тэм, а важная па сваёй паэтычнай сіле з-за шчырасці пачуццяў, з-за нестыдлівасці, якая ў паэзіі „латаецца“ штучнымі рэквізітамі. Паэзія Барскага каштоўная яшчэ сваім нацыянальным пасланніцтвам, яна ствараецца для моцных духоўна людзей і для той зямлі, з якой выплылі паэтычныя фразы. Такім чынам, гэта паэзія своеасаблівая з прычыны выразна зарысаванай лініі развіцця: ад суровых тэкстаў з тома „Белавежскія матывы“ аж да цыкла „Блізкасць далёкага“, будучага апафеозам жанчыны і жаночасці. „Не вер, дзяўчына, што ты непрыгожая“ — гэта сапраўды народнае, спеўнае акрэсленне не толькі велічыні жанчыны; гэта гімн, які аўтар складае будучай маці. Аднак нараджаюцца ў паэта і іншыя пытанні, якія ўзмацняюць творчы непакой. У адным з вершаў Барскі піша:

*Каб мог жыццё пачаць нанова,*
*Пачаў бы ад касы і плуга,*
*Зямлі астаўся б шчырым другам.*
*Каб мог жыццё пачаць нанова,*
*Зямлю я славіў бы не словам,*
*А толькі мускулаў натурай.*

Урастанне паэта ў „час драпежны зямлі“, пошукі ў жанчыне, адкідаемай біблійным міфам, глыбока гуманнай асобы і ўрэшце спалучэнне гэтага матыву з уцёкамі, са страхам, што выбар паэта можа аказацца неўласцівым, —




усё гэта, здаецца, зводзіць паэзію Барскага да дзяцінства, да спраў, называемых па імені, інакш гаворачы, да рэчаў і спраў найпрасцейшых і найчысцейшых. Увага гэта, аднак, толькі з выгляду відавочная. Барскі шукае толькі ў сваім непакоі хвілёвага ачышчэння, якое дазваляе яму пасля ізноў працягваць тэматыку вялікіх фасцынацый і вялікіх упадкаў.

Часта паэзія кахання ўцякае ў начны пейзаж, стараецца пачуццё ўзмоцніць містычнай атмасферай, звесці яго на шлях „нештодзённых“ уражанняў і пачуццяў. У Барскага эротыкам кіруе іншы закон: ён гаворыць проста і шчыра, як быццам абавязкам кожнага чалавека была біялогія яднання з жанчынай, захапленне яе целам, як быццам у пошуках адкрывання жанчыны можна было знайсці ўласнае „я“. І гэта ёсць паэзія штодзённасці, можа прыбраная святочнымі, высакапарнымі словамі, але жанчына — цела, жанчына — словы, жанчына — дом, мацярынства. Слоўныя ключы ў паэзіі Барскага, дадамо: паэзіі спантанічнай, а што за гэтым ідзе — шчырай, не выкарыстоўваючай камуфляжу, падкрэсліваюць лінію паэтычных сутычак. Ёсць яшчэ ў паэзіі Барскага аб'яднаны з першым планам рэквізіт асяроддзя. І заўважце, калі ласка: першыя эротыкі Барскага ўпісаны былі ў сельскі пейзаж, яны блізкія народнай аснове, скажам, народных песень, багатых біялогіяй „быцця з жанчынай“, навейшыя ж тэксты становяцца апафеозам перш за ўсё цела. Як быццам бы час гвалтоўна выдзіраў ад чалавека другога чалавека, а пакінуў аж да другога берагу вобраз шчаслівага пейзажу дзяцінства, які заквітнее ізноў, але па-за жанчынай, па-за цяплом яе цела. Вершы Барскага выходзяць са схемы „буйнага агароду маладосці“, а замыкаюцца ў сцэнах, падкрэслім, сцэнах вялікага і самотнага горада. І час, які ў самотнасці не дазваляе аб сабе забыцца.

Макмілан, англійскі гісторык літаратуры, апісваючы з'яву паэзіі Барскага, падкрэслівае яго захапленне паэзіяй кахання, якая на грунце беларускай літаратуры стварае ўласны свет і з'яўляецца чымсьці выключным. Тут цікава было б супаставіць паэзію Аляксандра Баршчэўскага з паэзіяй Яна Чыквіна і паэтычнай прозай Сакрата Яновіча. Супастаўленне гэтае тым больш неабходнае, што гэтыя прозвішчы важныя і нельга іх абмінуць у беларускай літаратуры ў Польшчы, а паэтыка, хоць іншая, дазваляе знайсці супольную адвечную ніць. У Барскага маем дачыненне з паэзіяй кахання ў выглядзе брутальнай шчырасці, у паэзіі Чыквіна маем дачыненне з паралелізмамі, якія паэт прымяняе ў пошуках найбольш адпаведнага слова. А ў прозе Яновіча выступае паэзія як быццам бы кадраваная, бяручая за сэрца дзякуючы дыялагам, паэтычнаму апісанню пачуццяў, часта сарамлівых, а з іх вырысоўваецца мышленне сучасных людзей, адзінокіх або свядома заціраючых сваю роднасць.

(Працяг на стар. 5)

*У ГЭТЫМ ТЫДНІ*

**150 гадоў назад**
20 III 1828 нар. Генрык Ібсен, нарвежскі драматург.

**130 гадоў назад**
20 III 1848 у Вялікапольшчы выбухнула паўстанне. Быў утвораны Нацыянальны камітэт.

**70 гадоў назад**
24 III 1908 нар. Аляксей Глебаў, беларускі савецкі скульптар. Майстар тэмат. кампазіцыі, батальнага і анімалістычнага жанраў, партрэта.

**50 гадоў назад**
25 III 1928 нар. Уладзімір Мехаў (Няхамкін), беларускі пісьменнік.

**30 гадоў назад**
24 III 1948 быў адкрыты Гістарычны музей Варшавы.

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**вычуняты** — выздаравець, выйсці з нейкай хваробы. Найчасцей адносяць да чалавека пабітага. Сінанім да слова „вылізацца“, якое ў прамым сэнсе адносяць да пабітага або хворага сабакі, потым пачалі спалучаць з чалавекам. Вычуняеш і без дохтора. І хто б подумав, шчо вуон вычуняе?. Так потрэпалы, шчо цыэлы сыні був. І, бач, вычуняв.

**картохлянка** — вада, у якой варылася скробаная бульба. Бывало, маты наварыт картохэль цыэлы чыгун, наліе міску картохлянкі, то і йімо. Про окрасу ныхто й нэ думав. Вылівай тую картохлянку свыням, шчо ты думаеш, шчо хтось йіе йесты будэ?

**куча** — стойла для жывёлы. Завэжы кучу, коп тэля нэ втыкло. Возьмі соломы і попутстылай, а то в кучы хоч ты плывай.

**ражаты** — голасна плакаць, з адценнем выцця, верашчання. Пэрэстань ражаты, бо ўб'ю! Чого ражыш, гэн сусіедэ повыбігалы, вжэ б'ют тэбэ тут так вэльмі. Здымі паска, врыэш, коб заражав нэ тым голосом.

**рызоваты** — гойдаць калыску. Воны собіе полягают спаты, а я стою і рызую то одну, то другую колыску. Туолькі оно пэрэстанэш рызоваты, той вэрэшчат.

**смуж** — чорная плямка ў бульбе, надапсутае месца. Наварат картохэль, шчо одны смужыэ і йіеш. Як йесты такіе картохлі, колы смуж на смужовы сыдыт.

*(Грабавец, гміна Дубічы Царкоўныя)*

(Працяг са стар. 3)

## Суд згоды

дня суседзі пачалі рабіць сабе розныя свінствы. Дайшло да таго, што адзін з іх замкнуў на ключ супольны калодзеж. Другі разрубіў накрыўку і паставіў свой замок.

Гэтыя лаянкі завялі іх у суд. Але з суда справу накіравалі ў грамадскую паяднаўчую камісію. Аднак суседзі заўзяліся, не хацелі пагадзіцца. І зноў адклікаліся да суда. Незадаволены з першага прыгавору, адзін з суседзяў адклікаўся да ваяводскага суда. Зноў трэба было плаціць і наймаць адваката, зноў ездзіць у далёкі горад, частаваць абедамі сведкаў і дарэмна траціць час. Давялося прадаць не адну свінку, а згоды яны не дабіліся. А хапіла б падаць суседу руку і заплаціць пару залатовак за люцэрну, якую з'елі суседавы свінні.

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае зараз звыш 100 грамадскіх паяднаўчых камісій. Больш-менш палавіна іх знаходзіцца ў вёсках. У мінулым годзе давялося разглядаць ім амаль дзве тысячы спраў, якія трапілі да іх ад самых зацікаўленых, з розных устаноў, з суда і пракуратуры.

Добра працуюць грамадскія паяднаўчыя камісіі ў Бельску, Заблудаве, Гарадку і ў Чорнай Беластоцкай. Іх пасяджэнні маюць яўны характар. Пасвараныя могуць у прысутнасці сваіх суседзяў, сваякоў і знаёмых выказаць усё тое, што набалела ім на сэрцы, і могуць — гэта вельмі істотнае — неяк з боку паглядзець на свае прэтэнзіі, на свае эмоцыі. Ад гэтага ўжо невялікі крок да ўзнікнення сумненняў: ці варта сварыцца, ці варта цягацца па судах?

Добра тады ведаць, што ў кожнай гміне існуюць **суды згоды**, якія афіцыйна называюцца **грамадскімі паяднаўчымі камісіямі.**

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 1)

## Поступ сучаснасці

— Так, гэта вельмі важная справа для будучыні нашай гміны. Мы знаходзімся ў пачатку вельмі сур'ёзных пераўтварэнняў у сельскай гаспадарцы. Ужо ж пачалося будаўніцтва семяноўскага вадасховішча. У планах міхалоўскага ПГР — садаводства, жывёлаводства. Гэта заманлівы шанц для новай моладзі. Але моладзі адукаванай, падрыхтаванай да працы ў сельскай гаспадарцы.

Падзякаваў я сакратару за гутарку і дагаварыўся на сустрэчу праз год, каб пераканацца, як сапраўды ажыццяўляецца поступ сучаснасці ў Міхалоўскай гміне.

**Віктар Рудчык**

## Беларуская літаратура

АЛЯКСАНДАР БАРШЧЭЎСКІ

### Нашаніўская пара

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XX**

**Пейзажныя вершы.** У дарэвалюцыйнай паэзіі Бядулі вельмі мала вершаў, прысвечаных вясне, і даволі многа звязаных тэматычна з летам. Зрэшты, у некаторых выпадках цяжка сцвердзіць, ці верш адносіцца да вясны ці да лета. Тыпова вясенні́м творам з'яўляецца верш „Яшчэ бялелі касагоры“. Належыць ён да чыстай пейзажнай лірыкі. Няма ў ім ні грамадскіх алюзій, ні аўтарскага псіхалагізму. Належыць ён да з'яў фатаграфічных. У сэнсе метафорыкі і паэтычных параўнанняў твор „Яшчэ бялелі касагоры“ зразумелы і просты:

*Яшчэ бялелі касагоры,*
*Ад снежных плямаў пара йшла,*
*Звінелі жаўранкі над борам,*
*Кідалі ўніз кавалкі шкла.*

Не зусім ясны толькі апошні радок. Праўдападобна, „кавалкі шкла“ гэта проста звон жаўруковых галасоў. Большасць летніх вершаў Бядулі адклікаецца сваёй тэматыкай да ночы. Сюды належаць вершы: „Лезе ў вочы ззянне месяца...“, „Вісіць серп залаты...“, „Абліта ззяннем зорак росная паляна...“.

Верш „Лезе ў вочы ззянне месяца...“ спалучае ў адну цэласць аб'ектыўнае з суб'ектыўным. З аднаго боку, паэт прадстаўляе аб'ектыўныя рэальныя пейзажныя элементы, з другога, выступаюць у творы рэфлексійныя, суб'ектыўныя ўяўленні. Паэту здаецца, што ад зямлі да неба стаіць лесвіца і нехта па ёй узнімаецца да зорак.

З суб'ектыўным момантам маем таксама дачыненне ў вершы „Абліта ззяннем зорак росная паляна...“. Аднак у гэтым творы аўтарскі суб'ектывізм праяўляецца толькі ў адным апошнім радку. Усе іншыя радкі ўтрыманы ў стылі прыгожай фатаграфічнасці.

*Абліта ззяннем зорак росная паляна.*
*Застыў пад мгненне ценяў чулы зарасняк.*
*З-пад шыза-дымнай хмары круглы месяц глянуў,*
*У рэчку кінуў-сыпнуў бірузовы мак.*

*У блізкай вёсцы ўсхліпнуў, заспяваў гармонік;*
*Ён рэзаў, бы касою, цішыню начы.*
*Затрося лісцем свежым малады альхоўнік...*

*Ты, сэрца, адпачні тут, сэрца, замаўчы.*

У падобным стылі ўтрыманы верш „Вісіць серп залаты над спалоханым борам...“. Складаецца ён таксама, як і папярэдні, з дванаццаці радкоў. Рыфмаваная сістэма абапіраецца на прынцыпе: а-б; а-б.

У адваротнасці да верша „Абліта ззяннем зорак росная паляна...“ у творы „Вісіць серп залаты над спалоханым борам...“ увогуле не выступае аўтарская прысутнасць. У гэтым творы нямала традыцыйных паэтычных параўнанняў. Да такіх належыць акрэсленне месяца, як залатога сярпа, імглы — як мора, дуба — як вартаўніка. Да арыгінальных паэтычных асацыяцый належыць радок, у якім паэт гаворыць аб тым, што месяц „жне вершаліны хвой“.

Нягледзячы на тое, што амаль цэлы верш утрыманы ў стылі не новай паэтычнай іншасказальнасці, яго вобразы не могуць не падабацца чытачу. У вершы добра намалявана атмасфера ночы. І хаця ў ім, як мы ўжо сказалі, не выступае непасрэднае аўтарскае „я“, то адчуваецца глыбокі лірызм і імпрэсіяністычная эмацыянальнасць.

У спадчыне Бядулі знаходзім таксама такія вершы, у якіх выступаюць і розныя фазы дня і розныя поры года. Да такіх твораў належыць верш „Ля срэбнай затокі“. У першай частцы паэт паказвае радасны вясновы пейзаж, кладзе націск на гарманійнае сужыццё раслін, птушак і атмасферных з'яў і чалавека. У другой частцы паэт пераходзіць ад веснавой атмасферы да восені і тут звяртае выключна ўвагу на брыдоту прыроды, на яе суровасць і непрыхільнасць.

Вяртаючыся да тыпова летніх вершаў Бядулі, трэба падкрэсліць, што дамінуюць у іх індывідуальныя настроі. Паэт цікавіцца перш за ўсё тым, што ў летнім пейзажы прыгожае, светлае і гарманічнае.

## Так бывае...

Тузік бегаў за Вадзікам, а Вадзік за Тузікам. Сабака сардэчна гаўкаў, пасля цягаў Вадзіка за калошы, выклікаючы ў хлопца многа задавальнення. Любіў Вадзік Тузіка, частаваў яго сваімі бутэрбродзікамі, пячэннем, булкамі. А калі не было маці ў хаце, частаваў сабачку малаком. Хлябтаў Тузік малако і весела памахваў хвосцікам. Яно, мусіць, напаміна́ла яму малако маці-сукі, якую раз'ехаў аўтобус, калі Тузіку не было яшчэ і трох месяцаў.

Вось з гэтага часу распачалася ў сабачкі цяжкая доля. Гаспадары раздалі шчанят людзям. І Тузіка разлучылі з сабачай кампаніяй. Вадзік Агрыпонаў выпрасіў у бацькі, каб узяў асірацеўшага сабачку. Тады хлопчык ахрысціў яго Тузікам.

Агрыпонава злая была і на мужа і на Вадзіка. Чырванела са скупасці, калі бачыла, што яны кормяць сабачку. Непрыязна яна адносілася да Тузіка. Выганяла яго з хаты, а калі ён падыдзе да Агрыпонавай, яна, як не мае чым, ды хоць нагой ударыць шчанюка. Пасля маці заявіла пры мужу і сыне, што сама будзе карміць Тузіка: каб ніхто не смеў нічога даваць.

Вадзік бачыў, чым і як корміць маці сабачку. І таму ўкрадкам падкормліваў Тузіка. А часам так накорміць, што сабачка нават не хацеў глядзець на яду, што падрыхтавала маці.

— Ты зноў яго накарміў, чорце паласаты, — крычала Агрыпонава і кулаком пагражала Вадзіку.

Тузік хутка рос і патрабаваў яды ўсё больш. Гэта ўводзіла ў яшчэ большыя нервы Агрыпонаву. Са злосці загадала яна ўвязаць Тузіка на ланцуг. Сабачка скавытаў на ўвязі, прасіўся на свабоду, так, як дзіцё, хацеў бегаць па панадворку, па вуліцы. Дапрасіцца ў Агрыпонавай гэтага ніколі не мог. Наадварот. Калі ён скавытаў, яна выбягала злосная з хаты і біла сабачку. Тузік вісне ад болю, заплача і замоўкне. Але калі прыходзіў са школы Вадзік, адвязваў Тузіка, лашчыў яго, браў на рукі, карміў. І, каб не ён, сабачка з голаду здох бы.

### Сабачая доля

Тузік нераз бегаў па вуліцы, заглядаў людзям у твар і, віляючы хвастом, быццам гаварыў сустрэтаму: „Будзь чалавекам, дай што-небудзь галоднаму няшчасніку“. Найчасцей спатыкаўся з чалавечай грубасцю. Адзін грозна нагою прытупне, другі ўдарыць. Але не пераставаў ён верыць у чалавечую дабрату. І вось аднойчы сустрэў ён літасцівую старэйшую кабету, якая зразумела яго гора. Адчуў ён адразу яе добразычлівасць, калі яна прамовіла: „Бедны сабачка, хадзі да мяне, пакармлю я цябе“. І за ёю прыйшоў сабачка на панадворак і атрымаў вялікую порцыю смачнага супу і так наеўся, што стала яму цяжка падбегчы да гаспадыні, каб падзякаваць і сказаць, што ён адсюль нікуды не пойдзе. І якраз тады ўбачыў пры хлеўку двух вялікіх, сытых сабак, якія здзіўлена глядзелі на сабачага малыша. Гаспадыня падышла да Тузіка, пагладзіла яго па галоўцы і адправіла за сваю браму, а сабачка, зразумеўшы ўсё, пабег гуляць з Вадзікам. Было гэта зусім блізка, дзве хаты далей, за скрыжаваннем.

Брыдка рабілася Агрыпонавай, што чужыя людзі падкормліваюць яе сабачку, быццам яна была тут найбяднейшай ці найгоршай. Тым больш, што і муж яе за гэта часта папракаў.

І пастанавіла Агрыпонава пазбыцца сабачкі. Падгаварыла да гэтага свайго дзевяцігадовага сына Вадзіка, які даўно дапамінаўся, каб купілі яму дзіцячы веласіпед. Згодай на пакупку веласіпеда падкупіла яго. І вось выбралі яны адпаведны момант, гэта значыць тыя гадзіны, калі суседзі на рабоце. Узброіліся кіямі і пайшлі да ўвязанага Тузіка. Сабачка, мусіць, адчуў смяротны прыгавор. Ён маўчаў, а з яго вачэй цяклі слёзы. Калі Вадзік убачыў умаляючы позірк Тузіка, заплакаў таксама. Не даў маці дакрануцца да сабачкі і плачучы сказаў: „Не хачу я веласіпеда“.

Праз некалькі дзён Агрыпонава раніцай сказала, што прапаў Тузік. Вадзік не верыў у гэта і воўкам глядзеў на маці. Быў перакананы, што маці Тузіка раніцай забіла і дзесьці закапала. Вадзік у гэты дзень спазніўся ў школу. Ён шукаў у хлявочку закапанага Тузіка. І знайшоў. На гэтым месцы накідана была салома і пастаўлена кадушка.

У школу зайшоў на перадапошні ўрок. Быў ён прысвечаны чалавечай дабраце да жывёлы. Увесь урок Вадзік сядзеў з апушчанай галавою і думаў аб маці. Ды думаў яшчэ аб тым, што яго мама таксама настаўніца, таксама прыгожа гаворыць аб добрых адносінах да жывёлы, аб прыродзе і прывязанасці да яе.

**Міхась Сваяк**

## Краязнаўчы слоўнік

### Бянёўцы

У гэтую невялічкую вёсачку, што знаходзіцца ў якіх сямі-васьмі кіламетрах на ўсход за Дубровай Беластоцкай па шашы ў Новы Двор, сёння рэдка заглядае нехта чужы, бо што і казаць: надта ж незаходны тут куток. Але затое калісьці!..

Гэта ж тут былі тыя „вароты“, праз якія, пераважна ўлетку, выліваліся са сваіх сялібаў з тэрыторыі сённяшняга Аўгустоўска-Сувальскага паазер'я атрады ваяўнічых яцвягаў, каб ваяваць суседнія рускія і польскія землі. Сюдою таксама хадзілі ў Яцвягію атрады рускіх і польскіх князёў помсціць за гэтыя набегі.

Не паспеў апасці пыл па гэтых сутычках, як тут штораз часцей пачалі разгульваць крыжацкія рыцары, якія пераважна з гэтага кірунку атакавалі Гродна ці ішлі „рэйзамі“ на Нарву, Бельск, Драгічын.



*У такіх хатках жылі сяляне ў Бянёўцах, калі на іх сённяшнім палетку Двуор красаваўся прасторны і светлы панскі палац.*

І няма, бадай, ні на тутэйшай **Кудорскай гары,** ні на палетку **Вераб'еў лужок** і па ўсім іх наваколлі такога каменьчыка, які б па некалькі разоў не быў бы падбіты капытамі ваенных коней. А сляды нейкай кровапралітнай

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ

# SMOKIE



**Заказвала** Рэната Борыс з Беластока.

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка, прачытала я ў „тайнах“ ліст, у якім дзяўчына жаліцца, што не дазваляюць бацькі выйсці замуж за каханага, бо правініўся, у турме сядзеў. А мне таксама не дазваляюць, хаця мой хлопец не зрабіў нічога дрэннага, а толькі няшчасце яго спаткала. Хадзіла я з ім яшчэ ў ліцэі. Закончыўшы сярэднюю школу, ён пайшоў у вышэйшую школу, а я, як і тая дзяўчына, канчаю паматуральную школу. Ён ужо быў на чацвертым курсе, і мы думалі пажаніцца на канікулах. Бацькі не пярэчылі, бо ён вельмі ім падабаўся. Але вось здарылася няшчасце. Разбіўся самаход, у якім знаходзіўся мой хлопец. Былі там і забітыя, а ён моцна пакалечыўся. Быў пашкоджаны твар і зламана правая нага. Ён нядаўна выйшаў з шпіталя, ходзіць пры дапамозе куляў. На твары таксама асталіся сляды. Але я кахаю яго можа нават мацней яшчэ, як калісьці. Затое бацькі і слухаць не хочуць аб нашай жаніцьбе. Кажуць: калека, дзе ж ты за яго пойдзеш? А лекары кажуць, што ў будучыні ён будзе хадзіць без куляў, толькі кульгаць крыху будзе, бо нага карацейшая. Сэрцайка, ці ж калі яго спаткала няшчасце, дык я маю пакінуць яго?

Аня з Беластока

Аня! Бачыш, бацькі найбольш цэняць дабро свайго дзіцяці. А я згодна з табой. Хлопец твой пацярпеў моцна. І было б яму вельмі прыкра, каб яшчэ і ты ад яго адраклася. Вонкавы выгляд не найважнейшы. Ды і падумай, Аня, хаця ты маладая і часоў вайны не памятаеш, але кніжкі ж чытаеш, глядзіш фільмы. Колькі нарачоных, мужоў вярталася на кастылях і як жа сардэчна віталі іх дома. Думаю, з часам зразумеюць гэта і твае бацькі. І калі вырашыш выйсці за гэтага хлопца замуж, памятай адно: ніколі, нават у найбольшай злосці, не папікай яму калецтвам — гэта баліць не менш ад ран.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, прысніўся мне незвычайны сон. Быццам бы мой брат Генек вярнуўся са школы і аддае мне паштоўку, якую даў яму пісьманосец. Паштоўка была ад хлопца, якога я ведаю, у чырвоныя кветкі і зялёныя лісточкі. На паштоўцы было напісана некалькі слоў. У канцы мой хлопец пісаў, каб я прыйшла на спатканне ў нядзелю вечарам. Прачытала я паштоўку і палажыла яе на шафу. Вечарам прыйшла мая сястра, і я ўзяла паштоўку і пытаюся: „Ці падабаецца яна табе?“ Ніна (так клічуць маю сястру) сказала, што паштоўка вельмі харошая, і просіць, каб даць у рукі прачытаць. Не хацела я ёй даць і кажу, каб не чытала яна ўголас, таму што ў мяне сядзелі дзяўчаты. Сястра ўзяла ад мяне паштоўку і пачала чытаць уголас, рабіла мне на злосць. Крыўдна мне было, і пачала я адбіраць паштоўку, але сястра прачытала яе ціха і сама мне аддала. На гэтым я прачнулася. Астроне, надрукуйце мой сон і скажыце, ці быў ён добры. Чакае мяне гасціна, і я нецярпліва чакаю, што будзе. Можа мой сон звязаны з гэтай гасцінай... Я ваша сталая чытачка і з нецярплівасцю буду чакаць „Ніву“, дзе будзе надрукаваны мой сон.

Анна

**Анна!** Ясна адно, што чакае цябе нейкая вестка. Вестка гэта будзе прыемная, бо паштоўка была аздоблена чырвонымі кветкамі і зялёнымі лісточкамі. Здаецца, што будзе датычыць яна тваіх „сэрцавых“ спраў. А „Ніву“ чакай заўсёды!

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У чэрвені 1975 года Р. скончыў тэхнікум. У той час яму ўжо было 18 год. Ён спрабаваў здаваць экзамен на палітэхніку, аднак яму гэта не ўдалося. Працы ён не распачаў, а ўвосень быў пакліканы ў войска. Бацька ад 1 ліпеня 1975 года перастаў плаціць аліменты. У 1977 годзе судовы выканаўца па прапанове маці Р. пачаў спаганяць залеглыя аліменты. Ці судовы выканаўца мае права спаганяць аліменты для дарослага сына, які не вучыцца і не працуе?

АДКАЗ: Судовы выканаўца звязаны рашэннем суда і не мае права ацэньваць, ці гэта рашэнне правільнае, і ці абавязанне, устаноўленае рашэннем, было выканана, або з іншых прычын не існуе. Гэткая ацэнка належыць да суда. Таму, пакуль няма іншага рашэння суда, судовы выканаўца мае абавязак выконваць рашэнне суда, якім прысуджаны аліменты. Бацька Р. павінен звярнуцца ў суд з патрабаваннем сцвярджэння, што не мае ён абавязку плаціць аліменты на сына ад часу, калі яму споўнілася 18 год, што азначае магчымасць самастойнага ўтрымання. Аднак няправільна было б лічыць, што Р. прыслугоўваюць аліменты да 1 ліпеня 1975 г. Яму прыслугоўвала права старацца паступіць на палітэхніку, а калі б нават ён не меў гэткага намеру, то патрэбны быў час на адпачынак і на пошукі працы. Таму, калі б нават не было вялікіх клопатаў з працай, трэба было б лічыць прынамсі тры месяцы ад заканчэння школы, у час якіх бацька абавязаны плаціць аліменты.

## Куток практычных ведаў




### ЯКІЯ КАСТРУЛІ НАЙЛЕПШЫЯ?

Памятаю, было гэта ў той час, калі станавілася я гаспадыняй. Выбіраю ў магазіне каструлю. Выбрала адну, але аказалася, што вельмі яна цяжкая. Выбрала другую: лёгенькая, прыгожая. Стаячая з боку старэйшая жанчына звярнулася на маю тэму да прадаўшчыцы: „Адразу відаць, што гаспадыня маладая, нявопытная!“ Я вельмі здзівілася і запыталася ў яе, адкуль яна гэта ведае. А тая і кажа, што вопытная гаспадыня заўсёды выбірае каструльку з таўсцейшым дном. І чым каструля цяжэйшая, тым яна больш практычная, асабліва пры падрыхтоўцы смажаных і тушаных страў.

Калісьці былі чыгуны і каструлі з жалеза, і можна было іх выкарыстоўваць пры падрыхтоўцы розных страў. Цяпер жа наша прамысловасць выпускае ўсё большы асартымент спецыяльнага посуду, які неабходна ўжываць згодна з яго назначэннем. Інакш кожная каструлька знішчыцца вельмі хутка, бо будзе адпырсквацца эмалія.



Шкада, што і да сёння многія гаспадыні не даацэньваюць добрых, моцных каструль з тоўстым дном і выкідаюць зачастую грошы на менш практычныя тонкія каструлі, якія ім даводзіцца часта змяняць.

Зразумела, для тушэння і смажэння найлепш мець спецыяльныя брытфаны, інакш кажучы, ванначкі. У апошні час, аднак, выпускаецца шмат каструль і глыбокіх эмаліраваных патэльняў з таўсцейшым дном, прызначаных для смажэння і тушэння. Мяса да іх не прыстае і не прыгарае, а смажыцца і тушыцца вельмі хутка. Акрамя таго, гэты посуд так эстэтычны і каляровы, што не будзе сорамна паставіць такую каструльку проста на стол, тым больш, што страва ў ёй вельмі доўга захоўвае цеплыню. Цяжкі посуд мае розную форму і велічыню. Бывае круглы, квадратны, авальны, глыбокі і паўглыбокі.

**Гаспадыня**

## Ці ведаеце, што...

...зараз на вёсцы пражывае 43,6% усяго насельніцтва нашай краіны. У сярэднім на адну гміну прыпадае 7 210 асоб. Найбольш жыхароў мае гміна Вялічка ў Кракаўскім ваяводстве — 23 659, найменш, бо ўсяго 414 асоб, пражывае ў гміне Новае Вапна ў Шчэцінскім ваяводстве.

...180-метровую перапонку пабудавалі бабры на рэчцы Нетупе ў Беластоцкім ваяводстве. Усіх іх жыве тут 35 штук. Але, відаць, вельмі працавітых.

...у 1990 годзе ў Беластоцкім ваяводстве будзе пражываць 705 тысяч жыхароў (у 1975 годзе было 618 тысяч).

(ця)




Аднойчы, гэта было на трэці або чацвёрты дзень пасля яе работы ў порце, Лена прыйшла дамоў асабліва стомленая і сярдзітая.

— Што здарылася? — спытала Надзя. — Стамілася?

Лена зморшчыла лоб.

— Ах, Надзька! У порце столькі магчымасцей, а я хаджу як дурніца! Ні нямецкай мовы не ведаю, ні румынскай! Што вакол гавораць, не разумею! А як шмат важнага можна было б даведацца!..

— Хопіць табе злаваць, — старалася супакоіць яе Надзя. — Ты і так здолееш. А я сёння радыё слухала!

— Ну, што там гаварылі? — спытала Лена, крыху супакоіўшыся.

— Нашы ўжо да Херсона падыходзяць.

— Цяпер усё зразумела!

— Што зразумела?

— Зразумела, адкуль у порце столькі з'явілася раненых немцаў і румын. Іх грузяць на караблі. Будуць эвакуіраваць. А сёння раніцай прыйшоў транспарт з войскамі. Разгружаюцца...

Лена абедала, а Надзя сядзела насупраць яе, падпёршы далонямі шчокі, і разглядала яе пачырванелыя, у драпінах рукі.

— Што ты сёння такая злосная? — спытала яна.

— Мне здаецца, Надзька, нам удзвюх з табой не справіцца.

— Няўжо ты Вальку ў спакоі пакінеш?

— Нам у порце людзі патрэбны. Прыглядаюся да ўсіх, думаю, з кім бы пагаварыць шчыра. Падсяду да чалавека, і, здаецца, вось толькі намякну яму, і ён мяне зразумее, а загаварыць — душа не пускае!

— Баішся правалу?

— Ды хіба справа ва мне самой! Не хочацца памерці, нічога не паспеўшы зрабіць.

У загадзе, які дзяўчаты атрымалі напярэдадні вылету, было сказана падабраць сабе памочнікаў на месцы. Першая ж сустрэча з Валяй паказала, як гэта складана. Тысячы людзей вакол, і абавязкова хтосьці толькі і чакае патрэбнага слова, але як гэтага чалавека знайсці?

Лена доўга прыглядалася да свайго брыгадзіра Марыі Апанасаўны, строгай жанчыны з моцнымі рукамі. Аднойчы ў перапынку, калі Лена прысела на скрыню побач з Марыяй Апанасаўнай, тая пільна агледзела порт і задуменна сказала:

— Усю Расію нашымі рукамі вывозяць! І заводы, і прадукты. А мы глядзім! Ах, не людзі мы — чалавекі!.. — І змоўкла, моцна сцяўшы тонкія вусны.

І Лена з ёю загаварыла. Пачала здалёк. Марыя Апанасаўна слухала яе, стараючыся зразумець, да чаго хіліць гэта маленькая хударлявая дзяўчына.

Заахвочаная маўчаннем Лена ўсё бліжэй і бліжэй падыходзіла да сваёй мэты. Трэба змагацца. І ёсць людзі, якія ведаюць, што трэба рабіць. Калі толькі Марыя Апанасаўна хоча...

— Падумаю! — сказала ёй Марыя Апанасаўна. — Падумаю. Ты больш мне нічога не гавары. Калі вырашу, сама табе скажу, — і, устаўшы са скрыні, пайшла, пакінуўшы Лену ў разгубленасці.

Ні на другі дзень, ні на трэці яна адказу не дала і рабіла выгляд, што Лену амаль не прыкмячае. Гэта адчужанасць выклікала ў дзяўчыны трывогу. Працуючы, яна назірала за брыгадзіршай, стараючыся зразумець: проста Марыя Апанасаўна пазбягае небяспечных зносін або настроена да яе па-варожаму.

Мінула яшчэ некалькі дзён. Аднойчы Лена з раніцы працавала на невялікім складзе, перасыпала рыдлёўкай зерне, каб яно не „гарэла“. Прымасціўшы сваё цяжкае цела на скрыню і арудуючы вялікай іголкай Марыя Апанасаўна непадалёк ад яе зашывала мяшкі. Пахла сырасцю, і цяжка было дыхаць ад дробнага пылу. Да перапынку заставалася яшчэ мінут сорак, як раптам у глыбіні склада моцна загрымелі чыгунныя дзверы, імкліва ўвайшоў інжынер Ткачэвіч.

Ткачэвіч падышоў да Марыі Апанасаўны і, нізка нахіліўшыся, аб нечым яе спытаў; яна сцвярджальна кіўнула галавой і паказала ў бок Лены.

Ткачэвіч паклікаў яе пальцам да сябе, яна, не спяшаючыся, уваткнула рыдлёўку ў зерне і пайшла да яго.

— Я цябе пераводжу на іншую работу, у экспедыцыю, — сказаў ён. — Заўтра з раніцы прыходзь ва ўпраўленне, — і хутка пайшоў да дзвярэй.

Лена глыбока ўздыхнула. Пранесла!.. Значыць, Марыя Апанасаўна ніякая не даносчыца. Проста яна па нейкіх сваіх меркаваннях не прымае яе прапановы.

Работа рассыльнай дала Лене неабмежаваныя магчымасці для выканання задання, але ўсё ж складанейшы механізм порта патрабаваў стараннага вывучэння.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачой

## Малады гаспадар

Міраслаў Суровец з Зубрыцы Вялькай, гміна Шудзялава, разам са сваімі бацькамі гаспадарыць на 18-гектаровай гаспадарцы. Па адукацыі Міраслаў — інжынер-рольнік. Выхаваўся аднак на вёсцы і палюбіў вясковае жыццё. Шкадаваў пакінуць бацькоўскую гаспадарку, бацькі старыя. Застаўся на гаспадарцы і ўзяўся за работу.

Цяпер дае 250 кілаграмаў мінеральнага ўгнаення на гектар, збожжа збірае 25 цэнтнераў з гектара, ячменю 40 цэнтнераў, а бульбы 300 цэнтнераў. Мае 8 галоў быдла, у тым 6 дойных кароў, 30 свіней. Намераны пабудаваць новыя, большыя будынкі і павялічыць жывёлагадоўлю.

Міраслаў з'яўляецца старшынёй гміннага гуртка Саюза сацыялістычнай польскай моладзі і радным ваяводскай рады нарадовай. **Гіль**

## Праз снег і дрэвы

У Супраслі адбыўся лыжны крос праз Кнышынскую пушчу. Удзельнічала 27 асоб. Самым маладым быў 9-гадовы Томэк Сасноўскі з Беластока, які разам з бацькам браў удзел у кросе.

I этап быў з Супраслі ў Суражкова — 13 км. Усе даехалі на месца. Захапляліся бліскучай у снезе і сонцы пушчай. У Суражкаве паелі, адпачылі, а вечарам сустрэліся ля кастра. На другі дзень вярнуліся ў Супрасль.

Крос усім вельмі спадабаўся, і пахвала належыцца яго арганізатару — Польскаму Турыстычна-краязнаўчаму таварыству, аддзел у Супраслі. **(яб)**

## Для пасёлка „Падляссе"

Жыхары новага пасёлка „Падляссе" ў Гайнаўцы да самай блізкай крамы хадзілі амаль 1 км. На кожным сходзе пасялковага камітэта людзі ставілі гэту справу: пабудаваць спажывецкую краму на пасёлку.

Пажаданні жыхароў узяла пад увагу Ваяводская спажывецкая спулдзельня ВСС, аддзел у Гайнаўцы. Аддзел не змог пабудаваць краму так адразу, але пабудову яе прыняў у план на 1980 год.

Каб аднак дагадзіць людзям, у канцы лютага быў адкрыты на пасёлку „Падляссе" спажывецкі кіёск. Гэта намнога аблегчыла справу штодзённых пакупак жыхарам пасёлка.

Прадаўшчыца ў кіёску — вопытны і шматгадовы працаўнік ВСС Крыся Даўнаровіч. Ад жыхароў пасёлка і пасялковага камітэта дырэкцыі аддзела ВСС у Гайнаўцы шчырае дзякуй.

**Э. Вайсковіч**




## НАВАТАРАМ—ПАЭТАМ

*Ад даўна й ў апошні годы*
*Молім бога пазаўсёды*
*І усіх святых зараз —*
*Сцеражыце, крыйце нас,*
*Нас сялянаў-хлебаробаў,*
*Ад паморкаў, ад хваробаў,*
*Ад паводкі, градабіцця,*
*Водкі па-над меру піцця,*
*Ад пажараў, спёкі ў лета,*
*Ад наватара-паэта,*
*Што нядбайна вершы клеціць,*
*Што паэзію калечыць,*
*Начаўпе — ні верш, ні проза,*
*Што й не скеміш нацвяроза.*
*З уяўлення — хаатычны,*
*Ў творчасці — неграматычны,*
*Фонікаю — пагарджае,*
*Рытму, рыфмы, унікае,*
*Што ні строфа — погляд другі,*
*Скокі ў бокі, бугі-мугі!*
*Усё здагадкі, ды намёкі,*
*Круціць, муціць на ўсе бокі.*
*Ох вы, гора-наватары,*
*Варты жалю вашы творы,*
*Змучылі вы імі нас —*
*Хлебаробаў...*

**Дзядзька Квас.**

## Таго і снег не накрые

Некалькі гадоў назад МПО ў Беластоку ўвяло для выгады жыхароў блокаў спецыяльныя сметнікі — вялікія скрыні на калёсах. Адміністрацыя дамоў вымушана была перарабіць даўнейшыя цагляныя сметнікі, каб можна было ў іх уставіць гэтую навасць. Усё павінна было служыць эстэтыцы і культуры на блокавых панадворках. Было шмат мітусні, напэўна, шмат грошай пайшло.

А вось прыклад, што сталася (зразумела, не ўсюды). На пасёлку 1000-годдзя па вуліцы Вясёлай 7 таксама быў пастаўлены такі ж сметнік. І што цяпер наглядаем? Тыя вялікія скрыні на калёсах ляжаць пераваленыя, а смецце людзі сыплюць вакол. Хто тут чаго не дапільнаваў? Сэрца баліць, калі далей пойдзеш па раёне 1000-годдзя ў Беластоку і паглядзіш, як гэтае вынаходства з паламанымі калёсамі валяецца сабе, а смецце сабе. І нават белы снег не змог гэтага беспарадку накрыць.

**В. Петручук**

## Зноў да лучыны?

У вёсцы Грэдалі папсавалася была электрычная праводка. Трэба было яе, зразумела, направіць. Прыехалі манцёры і ўзяліся за работу. Але направа вымагала пару тыдняў часу. А ў вёсцы за той час чым свяціць? Людзі адвыклі пад рукой трымаць старыя лямпы, павыносілі на гару. Ды лямпы можна было з гары зняць, толькі што з таго? Мясцовая крама не паклапацілася, каб на рамонт запасіцца шкламі і газай. Звычайны і... непрадуманы недагляд.

**Восень**

## Пажарная ахова ў Цялушках

У вёсцы Цялушкі ёсць моцная каманда пажарнай аховы. 17 адважных мужчын. Узначальваюць каманду Аляксандр Дулько, Мікалай Іванюк і Іван Паўлючук.

Нядаўна ў вёсцы адбыўся сход, на якім прысутнічалі госці з ваяводства. 10 пажарнікаў з Цялушкаў са шматгадовым стажам працы атрымалі адзнакі „Узорны пажарнік". Фактычна, пажарная каманда вёскі заўсёды гатова змагацца з агнём. Трое членаў служаць уласнымі трактарамі ў выпадку патрэбы. Можа якраз гэта пастаянная гатоўнасць цялушкаўскіх пажарнікаў, іх няспынная супрацьпажарная прапаганда сярод аднавяскоўцаў і з'яўляюцца прычынай, што вёска так доўга не пазнала біды пажару.

**М. Матвеюк**

## Гарцэры ў Бельску

Зімовыя канікулы гарцэры з Беластоцкай, Астралэнцкай і Бельскабяльскай харугваў праводзілі ў Бельску Падляшскім. Сабралася тут 450 гарцэраў. У залежнасці ад сваіх зацікаўленняў былі яны падзелены на групы: турыстычная, культурная, палітычная. У групах павышалі яны свае веды.

Не бракавала таксама і гульняў. Адбываліся па вечарам дыскатэкі і размовы ля каміна. Была таксама экскурсія ў Белавежу. **Кара-Кум**

## Як я стаў карэспандэнтам „Нівы"

Ганна Калішэвіч з вёскі Відава была пастаянным чытачом „Нівы". Будучы аднойчы ў яе, я пацікавіўся гэтым часопісам. Прагляну́ў, прачытаў некалькі нумароў і рашыў напісаць нешта з жыцця вёскі. Так і пачалося супрацоўніцтва з „Нівай". Калі рэдакцыя надрукавала некалькі маіх інфармацый, я пачаў пісаць часцей.

9 лютага адбыўся з'езд карэспандэнтаў „Нівы", на які і я быў запрошаны ў Беласток. З'езд адбываўся ў клубе ГП БГКТ на вуліцы Варшаўскай. Я быў адным з многіх удзельнікаў з'езду і быў рады, што прысутнічаю на ім. Рашыў часцей пісаць у 1978 годзе аб цікавых справах і людзях.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Гаспадар з алоўкам у руках

Гаспадары гміны Шудзялава павялічылі продаж сельскагаспадарчых прадуктаў дзяржаве. Банкі СОП усё запісваюць, бо ўсё лічыцца да пенсіі. Каб не здараліся няяснасці, многія, больш клапатлівыя гаспадары гміны, пачалі весці ўласныя хатнія сшыткі, дзе самі запісваюць свае даходы і расходы. Гэтакі тып гаспадара, які працуе з алоўкам у руках, знаходзіць штораз больш прыхільнікаў. **Гіль**

## Людзі і машыны

СКР у Нараўцы дбае пра сваіх трактарыстаў. Запатрабаванне на машыны з кожным годам у нас узрастае. А да новых машын трэба новых людзей-спецыялістаў. Механізуюць таксама свае гаспадаркі і індывідуальныя гаспадары. Маючы ўсё гэта на ўвазе, нараўкаўскі СКР адкрыў бясплатны курс на права язды трактарам. Удзельнікі курсу плацяць толькі страхаванне і за экзамен. Мясцовая школа адпусціла залы на тэарэтычныя заняткі, а СКР даў трактары і машыны для практычных заняткаў.

На курс прыходзіць больш як 50 чалавек. Кіраўніком з'яўляецца Валодзя Савіцкі — працаўнік СКРу. Выкладчыкі — гэта дырэктары СКРаў у Нараўцы, Чыжах і Навасадах, а таксама настаўнік сельскагаспадарчай школы з Гайнаўкі. **А. З.**

## Мастацкае чытанне паэзіі

У доме культуры ў Бельску адбыліся ваяводскія элімінацыі мастацкага чытання польскай і савецкай паэзіі. У конкурсе ўдзельнічала 20 чалавек з Беластоцкага ваяводства.

Першае месца заваяваў Янка Храбол з Беластока. Ён разам з Анпай Мацяеўскай будзе прадстаўляць Беластоцкае ваяводства на цэнтральных элімінацыях у Кельцах. Аня заняла другое месца і атрымала спецыяльную ўзнагароду за інтэрпрэтацыю рускага верша.

**Кара-кум**

## Сакольскі гуміарабік

Патрэбны быў мне клей. Ды добры клей. Хтосьці параіў купіць гуміарабік. Так я і зрабіў, ды плюю сабе ў бараду. Аказваецца, што гуміарабікам, выпрадукаваным у Сакольскім аддзеле Ваяводскай паслуговай спулдзельні працы, нічога не прыклееш. Два лісткі паперы, склееныя гэтым няшчасным гуміарабікам, так трымаюцца, як бы і не былі склеены. Прабаваў я розных спосабаў, каб склеіць, падаграваў, мазаў некалькі разоў, ды нічога з гэтага не выйшла.

Можа недагляд тэхнічнага кантролю пры прадукцыі нейкай партыі клею прычына гэтага?

**П. Байко**

## Вучыцца ніколі не позна

### У МАЛІННІКАХ

У вёсцы Маліннікі Арлянскай гміны ў мясцовай школе праводзіцца цікавы курс: ідэалагічнае навучанне жанчын. Быў арганізаваны ён па ініцыятыве і пры дапамозе СКР у Орлі. Жанчын на курс прывозяць спецыяльнай прычэпай. Прыязджаюць яны з вёсак Тапчыкалы і Шэрні.

На курс гэты жанчыны выбіраюцца, як на найбольшае свята. І тэмы лекцый іх цікавяць. А датычаць яны ролі вясковай жанчыны ў будаванні новага жыцця, развіцця сацыялістычнай гаспадаркі, выхавання дзяцей.

### У ПАШКОЎШЧЫНЕ

У школе ў Пашкоўшчыне заняткі адбываюцца не толькі днём, калі гаспадараць тут вучні I-VIII класаў.

Вечарам таксама свеціцца ў залах святло, а на лаўках сядзяць дарослыя людзі — ад 18 да 40 гадоў. Гэтыя людзі папаўняюць тут недахопы сваёй адукацыі. На вечаровых занятках вучыцца 30 асоб. Прыходзяць з трох вёсак: з Тапчыкал, Грэдалёў і Пашкоўшчыны. Гэтыя людзі ўмеюць усё зрабіць у гаспадарцы і заняцца яшчэ вучобай.

**Восень**




**Незнахарук.** У вас нарадзіліся сумненні адносна правапісу слоў „справа" і „злева". Чаму ў адным пішам прыстаўку „с", а ў другім „з"? У беларускай мове звонкія зычныя ў прыстаўках з-, уз-, роз- (раз-), без- (бяз-), цераз-, перад глухімі аглушаюцца і замест „з" пішам „с" (справа, распачаўся, расправа, цераспалосіца, бясконцы). Перад звонкімі зычнымі яны застаюцца звонкімі (злева, узлонне, безліч, уздзеянне, бязглуздзіца).

**Гіль.** Вельмі прашу вас помніць і ў будучыні напісаць пра дзейнасць камісіі грамадскага кантролю, пра якую вы пішаце, што толькі што арганізавалася пры новай радзе нарадовай у Шудзялаве. Гэтая ваша інфармацыя яшчэ неканкрэтная, і яе мы не апублікуем.

## Хто не роўна дзеліць?

Не раз пісалася на старонках „Нівы" аб ПГРы ў Крынках, аб якім і сапраўды можна многа добрага напісаць. У мінулым годзе многія працаўнікі ПГР Крынкі атрымалі добрыя кватэры, якіх па гарадах трэба вельмі доўга чакаць.

Таксама кожны працаўнік атрымаў хлявец, у якім можна гадаваць свіней і курэй. І здавалася, што нічым не розняцца працаўнікі бюровыя ад фізічных, каб не адна справа. На жаль, трактарысты наракаюць, што яны не маюць сродкаў мыць рукі, такіх, як, напрыклад, паста для рук і туалетнае мыла, а таксама ручнікоў. Такія сродкі атрымліваюць толькі бюровыя працаўнікі і механікі, а трактарысты дастаюць шэрае мыла і звычайны парашок, які прыгодны толькі для сціркі вельмі бруднай вопраткі. Не ведаю, ці гэтак трэба, каб трактарысты цэлы дзень нюхалі гаручае і пыл, а вечарам далей нюхалі шэрае мыла і дзьмухалі на парашок, які грызе і калечыць рукі.

У крынкаўскім ПГРы ёсць камісія гігіены працы. Цікава, чаму яна так не роўна дзеліць? **(з-я)**

## Патрэбны рамонт

Брук, пакладзены ў сяле Крывяцічы, у многіх месцах раз'езджаны. Ранняй вясной і дажджлівай восенню на вуліцы, што ідзе ў напрамку Чорнага леса, не толькі цяжка праехаць, але і прайсці. Так далей не павінна быць.

Варта, каб актыў сяла, партыйная арганізацыя і солтыс арганізавалі пачын на рамонт дарогі. З дапамогай тады павінны прыйсці і гмінныя ўлады ў Орлі.

Дарэчы, ужо больш як два гады, а гміна ў Орлі не закончыла ўкладвання тратуару ў сяле Крывяцічы.

**Іван Кірызюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „НА ВУЛІЦЫ НОВАЙ", „Ніва" № 42/1129 ад 16 кастрычніка 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W BIAŁOWIEŻY.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Na ulicy Nowej" z 42/1129 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 16 X 1977 roku dotyczącą przesunięcia słupów na tej ulicy informujemy:

Krytyka jest słuszna. Powiadomiliśmy Zakład Energetyczny Białystok — Rejon Bielsk Podlaski i otrzymaliśmy odpowiedź, że w pierwszym lub drugim kwartale bieżącego roku słupy zostaną przesunięte.

Jednocześnie przepraszamy za nieudzielenie odpowiedzi w terminie.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Jerzy Dzięćioł**
**Referent**

**Да заметкі: „ВУЛІЦА ВЯСКОВАЯ", „Ніва" № 7/1146 ад 12 лютага 1978 года і „ЯК У РЫБАКІ ДАЕХАЦЬ?", „Ніва" № 8/1147 ад 19 лютага 1978 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W MICHAŁOWIE.**

Urząd Gminy w Michałowie informuje, że ulica we wsi Rybaki jest niefunkcjonalna z powodu chaotycznej zabudowy i z braku troski mieszkańców o estetyczny wygląd własnej wsi. Ponadto nadmienia się, że jest ona przeznaczona wyłącznie dla ruchu lokalnego. Ciężkie pojazdy pracujące przy budowie zbiornika wodnego „Siemianówka" nie powinny przejeżdżać przez wieś, ponieważ nie jest to ich trasa.

Odnośnie notatki prasowej „Jak trafić do Rybak?" informujemy, że jesienią ubiegłego roku wszystkie tablice osiedlowe z terenu gminy zostały zdjęte w celu odnowienia. Będą one zawieszone z nastaniem wiosny.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**Paweł Kołosowski**
**Sekretarz Biura**

**Да публікацыі „І ШТО ВЫ СКАЖАЦЕ?", „Ніва" № 5/1144 ад 29 студзеня 1978 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W KLESZCZELACH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową z 5/1144 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 29 stycznia 1978 roku Zarząd Gminnej Spółdzielni w Kleszczelach informuje:

Po dokładnym zbadaniu sprawy i zasięgnięciu opinii mieszkańców osady Czeremcha udzielono sprzedawczyni Lucynie Bielak nagany za niewłaściwą obsługę klientów i samowolne zamykanie sklepu. Obiecała ona poprawę.

Oprócz tego zobowiązano pełniącą obowiązki kierownika Filii Ob. Ludmiłę Kuczyńską do stałego nadzoru nad pracą Ob. Lucyny Bielak.

**Prezes Zarządu GS**
**N. Petelska**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

